Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 210.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Серада, 27 траўня 1998 г. № 55 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Палітычная ізаляцыя становіцца эканамічнай

**Беларусь не атрымала запрашэння на Сусветны эканамічны форум, які адбудзецца напачатку ліпеня ў Зальцбургу (Аўстрыя).**

З гэтай нагоды міністр замежных справаў Беларусі Іван Антановіч перадаў «памятную запіску ўрада» паслам краінаў-членаў Еўрапейскага саюза. Змест запіскі носіць канфедэнцыйны характар, аднак стала вядома, што Іван Антановіч у чарговы раз папракае Еўрасаюз: маўляў, ізаляцыя павінна распаўсюджвацца «выключна на палітычныя кантакты».

Беларускія ўлады нервуюцца нездарма, бо Сусветны эканамічны форум з'яўляецца аўтарытэтнай арганізацыяй, заснаванай у 1971 годзе, штаб-кватэра знаходзіцца ў Жэневе. Сусветны эканамічны форум аб'ядноўвае каля тысячы буйнейшых фірмаў розных краінаў, а гадавы абарот удзельнікаў складае 3 мільярды доляраў. Форум садзейнічае развіццю кантактаў паміж кіраўнікамі і ўрадамі цывілізаваных краінаў, бізнесменамі і навукоўцамі для развіцця гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва.

Беларусь брала ўдзел у Сусветным эканамічным форуме ў 1992-93 гадах. Цяпер — стоп.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Міністр праваслаўных славянаў

**Міністр замежных справаў Іван Антановіч прызнаўся, што яму асабіста «імпанавала б славянская праваслаўная дзяржава».**



Пра гэта ён сказаў, выступаючы з дакладам «Расія і Беларусь: новы саюз у кантэксце сусветных сувязяў» на выязным паседжанні сесіі Расійскай акадэміі сацыяльных навук (РАСН), якое прайшло пазаўчора ў Мінску. Кіраўнік МЗС адзначыў, што саюз Беларусі і Расіі *«адначаўляе больш чым тысячагадовую гісторыю станаўлення вялікай дзяржавы»*. На думку Антановіча, *«аднаўленне адзінай дзяржавы хочуць усе народы некалі вялікай краіны»*.

*БелаПАН*

## У амбасадах – новае начальства

**Двое новых паслоў прыступілі да выканання сваіх абавязкаў у Мінску.**

Учора перадаў даверчыя лісты Надзвычайны і Паўнамоцны пасол ФРГ Хорст Вінкельман. 58-гадовы доктар юрыдычных навук працаваў у нямецкім пасольстве ў Маскве, паслом ФРГ у Эфіопіі, прэзідэнтам камітэта па сусветнай спадчыне ЮНЕСКА.

Пасля доўгай валакіты беларускія ўлады выдалі агрэман Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму паслу Польшчы, 39-гадоваму Мар'юшу Машкевічу, які раней працаваў генеральным консулам у Гродне.

**А.Д.**

## Чэшская Хартыя-77 вітае Хартыю-97

**У канцы мінулага тыдня дэлегацыя беларускай Хартыі-97 наведала Прагу.**

У складзе дэлегацыі, якую ўзначальваў Андрэй Саннікаў, былі Людміла Грaзнова, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч і іншыя. У Празе яны сустрэліся са сваімі «духоўнымі бацькамі» — удзельнікамі чэшскай Хартыі-77, якая, па словах Саннікава, *«паслужыла для нас мадэллю і ўзорам»*.

Прадстаўнікі абедзвюх Хартыяў правялі ў Празе сумесны семінар, на якім беларускія госці распавялі пра розныя бакі становішча ў нашай краіне, а чэшскія ўдзельнікі падзяліліся сваім вопытам барацьбы з камуністычнай сістэмай. Захавальнік традыцыяў Хартыі-77 Рудольф Батэк перадаў беларусам сімвалічны знак падтрымкі — больш за 200 подпісаў, сабраных у Празе за Хартыю-97.

Акрамя таго, дэлегацыя Хартыі-97 сустрэлася з беларускай суполкай, афіцыйнымі асобамі Чэхіі (напрыклад, з начальнікам канцылярыі прэзідэнта — пасада, аналагічная нашаму кіраўніку прэзідэнцкай адміністрацыі), а таксама са шматлікімі праваабарончымі арганізацыямі. З некаторымі з іх дамовіліся наконт сталага супрацоўніцтва. Ужо з гэтага лета распачнуцца некалькі сумесных чэшска-беларускіх праграмаў — у прыватнасці, адукацыйная і праваабарончая. Дзякуючы гэтаму беларускія праваабаронцы пашыраць свае кантакты ў Еўропе і атрымаюць магчымасць стажыроўкі за мяжой.

*«Канчатковай мэтаю гэтых праграмаў,* — кажа А.Саннікаў, — *з'яўляецца пабудова ў Беларусі грамадзянскай супольнасці, калі не грамадзяне будуць залежаць ад уладаў, а ўлады ад грамадзян. Уласна, гэта з'яўляецца галоўнай мэтай і дзейнасці «Хартыі-97».*

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

### Свята

***Заўтра — Дзень памежніка. Памежныя войскі Беларусі святкуюць свой 80-гадовы юбілей. Да свята памежнікі выпусцілі юбілейныя медалі і нагрудныя знакі, а таксама стварылі дакументальны фільм. У салдат — асаблівае свята: у гэтыя дні на заставы і ў пагранатрады прыедуць іхнія родныя і сябры.***

### Візіты

***Візіт Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II у Беларусь, які планаваўся на 5 чэрвеня, перанесены на больш позні тэрмін у сувязі з хваробаю кіраўніка Рускай праваслаўнай царквы.***

### Суседзі

***Прэзідэнты Польшчы, Украіны і Літвы пагадзіліся, што міжнародная ізаляцыя Беларусі можа мець негатыўныя наступствы. Гэта было канстатавана імі падчас трохбаковай сустрэчы, што прайшла 25 траўня ў польскім горадзе Жэшаве. Літоўскі прэзідэнт Валдас Адамкус адзначыў: «У адносінах з Беларуссю мы, можа быць, прыйдзем да агульных палітычных справаў... Аднак цяпер падыходы да дэмакратыі ў нас розныя».***

### Эканоміка

***З пачатку года, паводле падлікаў міністэрства статыстыкі, назіралася стабільнае падзенне рэнтабельнасці ў большасці галінаў эканомікі. Асабліва рэзка знізілася рэнтабельнасць у сельскай гаспадарцы, на транспарце і ў будаўніцтве.***

# Здароўю нацыі дапаможа рэклама

**Міністэрства аховы здароўя распрацавала дзяржаўную праграму «Здароўе нацыі» на перыяд да 2005 года.**



Што ж трэба зрабіць, каб палепшыць здароўе беларусаў? Галоўнае — гэта заканадаўчая база. Праграма "Здароўе нацыі" раіць парламенту прыняць законы "Аб харчаванні", "Аб пітной вадзе", "Аб ахове працы" і некаторыя іншыя.

Прыняўшы законы, можна перайсці і да людзей, для якіх гэтыя законы ствараюцца. «Здароўе нацыі» пры дапамозе шматлікіх захадаў збіраецца адвучыць беларусаў ад шкодных звычак: кінуць піць і паліць, нават не думаць пра наркотыкі, а займацца фізкультурай і спортам, кожны дзень рабіць ранішнюю зарадку, набываць тавары з «сімволікай здароўя і спартыўнага абсталявання» (можа, піва «Хакей»?), удзельнічаць у «кірмашах здароўя» разам з вядомымі дзеячамі палітыкі, спорту і мастацтва...

Асобная роля ў прапагандзе «здаровага ладу жыцця» адводзіцца сродкам масавай інфармацыі. Менавіта яны будуць тлумачыць беларусам перавагі здаровага ладу жыцця шляхам *«штодзённых 3-5 разовых трансляцыяў рэкламных ролікаў у вячэрні час»*, а ў газетах і часопісах будуць створаныя адлаведныя сталыя рубрыкі. Апроч таго, радыё і тэлебачанне будуць мэтанакіравана *«фармаваць негатыўнае стаўленне да чалавека, які курыць»*.

Усё гэта добра, ніхто не супраць паляпшэння харчавання, будаўніцтва новых лазняў і г.д. Антыалкагольныя і антытытунёвыя кампаніі таксама патрэбныя. Але маштабнасць і ўсеабдымнасць праграмы "Здароўе нацыі" выклікае вялікі сумнеў, што яна калі-небудзь будзе рэалізаваная. На сённяшні дзень усе міністэрствы і ведамствы атрымалі праект гэтай праграмы і цяпер падлічваюць, колькі грошай спатрэбіцца на яе выкананне. Дакладных лічбаў пакуль яшчэ няма, але відавочна, што сума будзе вылічацца ў трыльёнах рублёў. Канешне, для здароўя народа не шкада ніякіх грошай, але ж дзе іх узяць...

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Моцныя абдымкі ўладаў

**Заўтра пачынае працу з'езд прадпрымальнікаў Беларусі. Гэты форум збіраецца па ініцыятыве міністэрства прадпрымальніцтва і мае на мэце стварэнне так званай Беларускай канфедэрацыі прадпрымальнікаў. Фактычна дзяржава хоча ўзяць пад кантроль бізнесовыя грамадскія арганізацыі.**

Увогуле ў Беларусі даволі шмат прадпрымальніцкіх арганізацыяў. Самыя буйныя — Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя (аб'ядноўвае ў асноўным былыя прадпрыемствы саюзнага падпарадкавання), Беларускі саюз прадпрымальнікаў і арандатараў (прадпрыемствы рэспубліканскага падпарадкавання, арэндныя прадпрыемствы і г.д.), Беларускі саюз прадпрымальнікаў (сярэднія і дробныя прапрымальнікі) — у свой час аб'яднаўся ў Беларускую канфедэрацыю прамысловаў і прадпрымальнікаў, якая стала даволі ўплывовай сілай. Дзяржаве гэта яўна не падабаецца.

Улады не задавальняе існаванне адносна незалежных прадпрымальніцкіх арганізацыяў, думкі якіх наконт эканамічнага развіцця краіны кардынальна супярэчаць дзяржаўнай палітыцы. Улады даўно ўжо мелі планы ўзяць прадпрымальніцтва пад максімальны кантроль. Да таго ж, як заўважаюць эксперты, вялікую ролю адыгрываюць і амбіцыі міністэрства прадпрымальніцтва. Гэтая структура з моманту стварэння сутыкнулася з сур'ёзнай праблемай. Калі міністэрствам прамысловасці або сельскай гаспадаркі абсалютна ясна, кім кіраваць, каму дапамагаць, даваць парады і інструкцыі, то міністэрства прадпрымальніцтва мае ў гэтай справе вельмі моцных канкурэнтаў — прадпрымальніцкія саюзы. Яны маюць аўтарытэт у сферы бізнесу, досвед лабіравання інтарэсаў ва ўрадзе і стаяць на пазіцыях, далёкіх ад дзяржаўнай эканамічнай палітыкі. Цяпер міністэрства збіраецца ўсіх прыбраць да рук. Згодна з праектам статута новай канфедэрацыі, як даведаўся карэспандэнт НАВІНАЎ, функцыі выканаўчай дырэкцыі міністэрства плануе ўзяць на сябе.

Зрэшты, гэта ўжо не першая спроба стварыць прапрэзідэнцкую структуру, якая аб'ядноўвала б прадпрымальнікаў. У 1996 г. узнікла так званая Нацыянальная асацыяцыя прамысловікоў і прадпрымальнікаў. У свой час гэтая асацыяцыя і яе лідэр Раман Ананьеў выказалі цвёрдую падтрымку Аляксандру Лукашэнку. Але цяпер пра іх ужо ніхто не ўспамінае — стварыць больш-менш салідную структуру не ўдалося.

Сёння дзяржава прапануе свае жорсткія правілы гульні. Кіраўнікам існуючых асацыяцыяў і саюзаў прапанавана ўвайсці ў кіраўніцтва канфедэрацыі. Перад лідэрамі прадпрымальнікаў — нялёгкі выбар. З аднаго боку, яны не маюць магчымасці ігнараваць «сяброўскія абдымкі» дзяржавы, з другога — зусім не зацікаўленыя ў стварэнні новай арганізацыі пад кіраўніцтвам міністэрства прадпрымальніцтва. Інтарэсы значнай часткі бізнесу моцна адрозніваюцца ад інтарэсаў урада.

Пакуль многія прапрымальніцкія арганізацыі пастанавілі накіраваць на з'езд сваіх назіральнікаў. Па выніках з'езда стане ясна, наколькі моцныя ў Беларусі прадпрымальніцкія структуры і ці гатовыя яны прамяняць свае інтарэсы на дзяржаўныя абяцанкі.

Зрэшты, многія прадпрымальнікі ўжо зрабілі выбар, што спрачацца з беларускімі ўладамі бессэнсоўна. Мае сэнс зарабляць грошы ў іншай краіне.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Ветэрана СІЗО пачалі судзіць

## Бізнесмен Аляксандр Саманкоў трэці год утрымліваецца пад вартай

**У панядзелак у Мінскім гарадскім судзе пачаўся працэс над Аляксандрам Саманковым — экс-кіраўніком Першага інвестыцыйнага фонду.**

Саманкоў падазраецца ў дачы хабару ў памеры 15 тысячаў долараў. Усяго ж, па версіі следства, ён збіраўся даць «на лапу» ажно 100 тысячаў долараў і не каму-небудзь, а былому памочніку прэзідэнта Беларусі, цяпер міністру прадпрымальніцтва Аляксандру Сазонаву. Следства па справе Саманкова цягнулася больш за два гады, прычым двойчы справа адпраўлялася на дадаследаванне. Увесь гэты час абвінавачаны ўтрымліваўся за кратамі, да гэтага часу віну ён не прызнаў. Усё, што здарылася з ім у кабінеце памочніка прэзідэнта 25 сакавіка 1996 года, Саманкоў называе «правакацыяй спецслужбаў». Ён сцвярджае, што даваў не хабар, а проста пазычаў грошы Сазонаву, нічога не просячы ўзамен.

Следства прытрымліваецца іншай версіі. Са словаў былога памочніка прэзідэнта, прадпрымальнік хацеў з дапамогай хабару атрымаць выгадны крэдыт. У якасці доказу следства прад'явіла запісы размоваў Саманкова з Сазонавым, у тым ліку і відэазапіс перадачы хабару.

Дакладнасць гэтых запісаў падследны і яго адвакат Гары Паганяйла прапануюць аддаць на экспертную праверку. Саманкоў кажа, што ў запісах з'явіліся «падчысткі» і «ўстаўкі», але суддзя Аляксандр Васілевіч пакуль вырашыў разбірацца з запісамі без дапамогі спецыялістаў.

Дарэчы, у 1994 годзе А.Саманкоў аказваў садзеянне камандзе кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі. Прычым ёсць звесткі, што старшыня першага ў Беларусі інвестыцыйнага фонду дапамагаў Лукашэнку не толькі парадамі, але і капейкай. *«Адной з прычынаў правакацыі супраць мяне з'яўляецца мая інфармаванасць у справах тых часоў»*, — заявіў на судзе Аляксандр Саманкоў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



*На гэтай стадыі будаўніцтва газаправода «Ямал – Заходняя Еўропа» было замарожанае.*

# Труба – вялікі дэфіцыт

**У чэрвені расійскі канцэрн «Газпром» павінен вырашыць далейшы лёс будаўніцтва газаправода «Ямал — Заходняя Еўропа», які праходзіць па тэрыторыі Беларусі.**

Пакуль што будаўнічыя работы на беларускім участку газаправода (ад Смаленска да Нясвіжа) законсерваваныя: рабочыя раз'ехаліся, засталіся толькі дзяжурныя для аховы тэхнікі. Будаўніцтва было прыпыненае напрыканцы мінулага года з-за адсутнасці трубаў, якія пастаўляе нямецкая фірма «Манэсман». З таго часу тэрміны аднаўлення будаўнічых работ некалькі разоў пераносіліся, і вось у чарговы раз яны адкладзеныя на верасень. Працяг работ беларускі бок звязвае з маючым адбыцца ў чэрвені сходам кіраўніцтва «Газпрома».

Законсерваваныя будаўнічыя работы і на другім участку газаправода — ад Нясвіжа да мяжы з Польшчай, працягласць якога складае 209 кіламетраў.

*БелаПАН*

# Вертыкаль зачыняе дзверы

**Брэсцкія ўлады прыклалі нямала сілаў, каб не дапусціць правядзення ў сваім горадзе міжнароднай канферэнцыі па праблемах памежнага супрацоўніцтва.**

Асацыяцыя юрыскансультаў Брэсцкай вобласці і мінскі Фонд заканадаўчых ініцыятываў запрасілі ў горад над Бугам калегаў з Польшчы, Украіны, Літвы і Расіі, каб абмеркаваць праблемы супрацоўніцтва ў рамках эканамічных зонаў «Буг» і «Нёман». Арганізатары падалі ў аблвыканкам заяўку, і раптам за два дні да пачатку канферэнцыі, калі многія яе замежныя ўдзельнікі ўжо прыбылі ў Брэст, абласная вертыкаль дала адмоўны адказ. Маўляў, правядзенне канферэнцыі павінна быць узгодненае з міністэрствам замежных спраў, паколькі яе тэма нібыта закранае дзяржаўныя інтарэсы Рэспублікі Беларусь.

Гаспадары форуму звярнуліся ў МЗС, дзе ім адказалі, што падобныя рэчы міністэрства не вырашае. У самы апошні момант абласныя ўлады заявілі, што не супраць правядзення канферэнцыі. Але калі раніцай наступнага дня ўдзельнікі канферэнцыі прыйшлі да Палаца культуры дыванова камбіната, дзе павінна было праходзіць гэтае мерапрыемства, дзверы былі наглуха зачыненыя. Замежныя госці, сярод якіх былі польскі консул Томаш Клеманьскі, а таксама парламентарыі з Літвы і Украіны моклі пад дажджом, а ў гэты час арганізатары спрабавалі адшукаць каго-небудзь з адміністрацыі вобласці. Аднак усе намаганні былі марнымі — тэлефоны чыноўнікаў маўчалі. Праз некалькі гадзінаў безвыніковых пошукаў удзельнікаў канферэнцыі прытуліў клуб таварыства глухіх.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Махляры пашыраюць вытворчасць

**Апошнім часам у Беларусі значна ўзрасла колькасць фальшывых грошай.**

Як паведамілі ў Нацыянальным банку, часцей за ўсё падробліваюцца стодоларавыя купюры; звычайна яны вырабляюцца спосабам афсетнага друку або з дапамогай каляровага ксеракапіравання. Фальшываманетчыкі таксама ўхітраюцца даклейваць на банкнотах дадатковыя нулі і пераклейваць партрэты — такіх грашовых знакаў з пачатку года было канфіскавана 19.

Выяўленыя таксама розных вартасцяў фальшывыя нямецкія маркі, расійскія рублі і нават беларускія «зайцы» — усяго 161 купюра.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Тэлефоны ёсць – пазваніць нельга

**З мінскіх кіёскаў зніклі тэлефонныя карткі і патэлефанаваць з гарадскога таксафона стала фактычна немагчыма.**

Учора наш карэспандэнт абышоў шэраг сталічных гандлёвых кропак Белсаюздруку, дзе звычайна прадаецца гэты тавар, але безвынікова — пластыкавых картак нідзе не было. Па словах кіяскёраў, вось ужо месяц як на складзе картак ім не выдаюць, хаця попыт на гэтую прадукцыю надзвычай вялікі. У чым справа — кіяскёры не ведаюць.

Мы спрабавалі высветліць прычыну дэфіцыту ў аб'яднанні Белтэлекам (гэтае прадпрыемства адказвае за тэлефонную сувязь у краіне), але безвынікова. Чыноўнікі ў адзін голас адказвалі, што без дазволу намесніка начальніка аб'яднання Мікалая Крукоўскага яны нічога не могуць сказаць, хаця і ведаюць прычыну адсутнасці картак. Звязацца са сп.Крукоўскім было проста немагчыма — ён то абедаў, то прымаў грамадзянаў, то быў так заняты паперамі, што не мог знайсці пару хвілінаў на размову з журналістам. Па гэтай прычыне засталося без адказу і нашае пытанне, чаму ў Мінску няма ніводнага таксафона, з якога можна было б патэлефанаваць за аднаразовыя жэтоны. Напрыклад, з чыгуначнага вакзала пазваніць можна толькі пры дапамозе карткі, і многія транзітныя пасажыры, якія знаходзяцца ў беларускай сталіцы ўсяго пару гадзінаў, каб звязацца са сваімі знаёмымі ці сваякамі, вымушаныя былі плаціць немалыя грошы за картку, якая ім ніколі больш не спатрэбіцца.

І ўсё ж, тэлефонныя карткі, як нам удалося высветліць, хутка павінны з'явіцца ў продажы. Але гэта будуць у асноўным даволі дарагія аднаразовыя карткі на 90 і 120 хвілінаў. Белтэлекому нявыгадна выпускаць карткі на 15, 30 ці 60 хвілінаў — няма імгненнага прыбытку. Там думаюць найперш пра сваю выгаду.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Школьнікі пад кантролем ахоўнікаў

**З новага навучальнага года некаторыя школы Брэста будуць знаходзіцца пад наглядам агенцтва бяспекі.**

Патруляванне будзе праводзіцца ў тых школах горада, якія маюць рэпутацыю асабліва «праблемных». Шматлікія факты парушэнняў дысцыпліны, вымагальніцтва і наркаманіі сярод школьнікаў вымушаюць кіраўнікоў навучальных установаў шукаць дапамогі ў праваахоўных органаў. Брэсцкае агенцтва бяспекі «Набат» выступіла з ініцыятывай ахоўваць школы, як гэта робіцца ў Польшчы і Расіі, прычым бясплатна. Гарадскі аддзел народнай адукацыі ініцыятыву падтрымаў.

Вырашана, што з 1 верасня ў брэсцкіх школах № 7, 23, 26 і 30 будуць штодзённа дзяжурыць супрацоўнікі «Набата». Па словах дырэктара агенцтва Аляксандра Янусіка, ніякіх карных захадаў у дачыненні да дзяцей яго супрацоўнікі прымяняць не маюць права; уся інфармацыя аб парушальніках будзе перадавацца ў інспекцыю па справах непаўналетніх, з якой агенцтва будзе працаваць у цесным кантакце.

Такім чынам, Брэст стане першым горадам, дзе «праблемныя» школы будуць знаходзіцца пад наглядам ахоўнікаў. У выпадку поспеху эксперымент будзе пашыраны.

*БелаПАН*

# На літоўска-беларускай мяжы – чэргі

**На ўсіх мытных пастах літоўска-беларускай мяжы ўтварыліся вялікія чэргі легкавых аўтамабіляў.**

На памежным пераходзе ў Медніках (Мядзінінкай) пазаўчора ўвечары дазволу на ўезд у Беларусь чакалі 234 аўтамабілі, у Кракунай — 158, у Лаворышкес — 150, на іншых пераходах — прыкладна па сто машын. Супрацоўнікі літоўскай мытні сцвярджаюць: прычына ў тым, што значна вырасла колькасць легкавых аўтамабіляў, якія беларусы набылі ў Літве і пераганяюць у Беларусь. Па словах літоўцаў, паток аўтамабіляў затрымліваецца з-за беларускіх мытнікаў.

*BNS—БелаПАН*

## Вітаўт Кіпель:

# «Свабоду нам ніхто не прынясе»

**Гэтымі днямі ў Магілёве праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя «Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць».**

Канферэнцыя атрымалася досыць прадстаўнічай: у ёй бралі ўдзел больш за 40 навукоўцаў з розных краінаў. У Магілёў прыехалі аўтарытэтныя ў свеце навукі і культуры людзі з Беларусі, Латвіі, Германіі, ЗША і Канады, Расіі.

Арганізаваў канферэнцыю музей гісторыі Магілёва. Дырэктар музея Ігар Пушкін лічыць, што канферэнцыя дазволіла па-новаму ўбачыць больш чым 730-гадовае мінулае слаўтага беларускага горада. Старажытны Магілёў падыходзіць да XXI стагоддзя з вялікім скарбам страт і набыткаў. Тут і веліч сярэднявечнага росквіту, і досвед міргана міжэтнічнага, міжканфесійнага суіснавання, трагедыя неаднаразовых войнаў, заняпаду і разбурэння, бальшавіцкага панавання і прыкладаў нацыянальнага адраджэння.

Чаго больш? З чым ісці ў трэцяе тысячагоддзе? Ад чаго адмаўляцца, а што трымаць заўжды ў руках? Пытанні і спробы адказаў на іх гучалі на лекцыях і ў спрэчках падчас працы канферэнцыі. Яна праходзіла ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце.

У кулуарах канферэнцыі я ўзяў кароткае інтэрв'ю ў вядомага беларуса з Нью-Ёрка — Вітаўта Кіпеля, дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва.

**— Спадар Кіпель, што чуваць у Злучаных Штатах пра нашу краіну?**

— Беларусь ужо страціла ў Амерыцы рэпутацыю дэмакратычнай і незалежнай краіны. Мы безумоўна спрабуем патлумачыць, што ёсць розныя сілы, што беларускай дэмакратыі неабходная міжнародная падтрымка. Але ў нас многія кажуць так: калі самі беларусы не паімкнуцца дамагчыся свабоды, мы ім гэтай свабоды не прынясем.

**— Няўжо ўсё так змрочна?**

— Канечне, не. Напрыклад, гэтая канферэнцыя, дзе я пабачыў шмат выдатных людзей, сапраўдную сучасную беларускую інтэлектуальную эліту, пераконвае ў тым, што незалежная і вольная Беларусь мае несумнеўную будучыню. Ёсць каму берагчы і ратаваць нашую спадчыну.

**— Якая сёння беларуская дыяспара?**

— Яна моцна мяняецца. Сёння ў Амерыку прыехалі новыя людзі з Беларусі, маладыя, энергічныя. Яны розныя. Але вялікая колькасць з іх прыхільная да ідэалаў дэмакратыі і незалежнасці Бацькаўшчыны. Шкада, што некаторым даводзіцца пакідаць краіну па палітычных матывах. У нас яны актыўна далучаюцца да працы на карысць Беларусі. Ім удалося прыцягнуць да беларускай праблематыкі прадстаўнікоў амерыканскага Кангрэса.

**— Чым адметная гісторыя Магілёва?**

— Магілёў амаль заўжды быў буйным цэнтрам развіцця нацыянальнай культуры — асабліва ў Сярэднявеччы, але і ў пазнейшыя часы. Многія магілёўцы спрычыніліся да сусветнай гісторыі. Дастаткова назваць аўтара першага ўсходнеславянскага буквара Спірыдона Собаля, прэзідэнта Рэспублікі Гаваі Судзілоўскага, у еўрапейскіх хроніках таксама запісаныя святары Георгій Каніскі, Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, вялікі пісьменнік Максім Гарэцкі, шмат іншых! Гісторыя Магілёўскага краю і горада яскрава сведчыць аб трагізме ўсёй нашай мінуўшчыны, у ёй шмат урокаў таго, дзе шукаць сяброў і як сябраваць з суседзямі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Форум правозащитников

**С 25 по 28 мая в Варшаве проходит встреча защитников прав человека из более чем 50 стран.**

Форум организован под эгидой ОБСЕ, Совета Европы, Программы ООН по развитию. Многие страны представлены не только общественными организациями, которые занимаются защитой прав и свобод граждан, но и государственными чиновниками — так называемыми полномочными представителями по гражданским правам.

Институт полномочного представителя первоначально возник в Швеции; он представляет собой самостоятельный государственный орган, непосредственно связанный с парламентом, который принимает жалобы граждан на несправедливые или бесправные действия администрации и даже судов. Представитель по гражданским правам не имеет власти, однако его авторитет и связь с парламентом дает ему большие полномочия. В Польше, например, где институт полномочного представителя по гражданским правам существует с 1987 г. (т.е. возник еще при «народной» власти), он может обратиться в органы администрации с требованием о выполнении определенных действий, может представить свои замечания парламенту, обратиться в Конституционный трибунал, внести касацию в Верховный суд и т.д.

Сегодня институт представителя по гражданским правам существует в нескольких десятках стран, в том числе в Австрии, Бельгии, Грузии, Литве, Украине, Узбекистане. На встрече в Варшаве присутствуют также эксперты правительств тех государств, где еще не введен этот институт. Надо полагать, именно такими экспертами являются члены белорусской правительственной делегации Юрий Кулаковский из палаты представителей и Дмитрий Мирончик из министерства иностранных дел. В качестве участников от Беларуси на конференции присутствуют представители Ассамблеи негосударственных организаций и Хельсинкского комитета.

Главная цель форума — разработка рекомендаций о том, как создать бюро по защите прав граждан и как эффективно организовать его работу.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

# «Кошмарный сон скоро закончится...»

## *Германия заявляет о поддержке демократических сил Беларуси*

**Заместитель министра иностранных дел Германии Вернер Хойер сделал ряд заявлений относительно ситуации в Беларуси.**

В частности, он напомнил, что еще осенью прошлого года были приняты заявление бундестага «Беларусь должна вернуться к демократии и правовому государству» и выводы совета по общим вопросам Евросоюза, однако и по сей день нет возможности говорить о желании руководства Беларуси прислушаться к мнению Европы. *«В такой ситуации мнение Германии и Евросоюза относительно Беларуси измениться не может, поэтому мы должны поддерживать постоянный диалог с представителями демократических сил Беларуси. Этот кошмарный сон скоро закончится, и очень важно будет иметь демократического партнера, чтобы можно было совместными усилиями вернуть Беларусь в семью европейских народов»*, — заявил Вернер Хойер.

**Евгений САЧЕК**, *«Белорусская газета»*

# Президент Латвии против смертоубийства

**В еженедельном радиообращении президент Латвии Гунтис Улманис вновь решительно высказался против смертной казни.**

Президент, объявивший осенью 1996 года мораторий на смертную казнь в Латвии, призвал депутатов парламента пересмотреть новый Уголовный кодекс, в котором закреплена статья о применении смертной казни. Г.Улманис подчеркнул, что большинство европейских стран отказалось от подобного способа борьбы с преступностью. *«Смертная казнь неприемлема ни с мирской, ни с религиозной, ни каких-либо других точек зрения. К тому же пожизненное заключение является более суровым наказанием, чем смертная казнь»*, — сказал Г.Улманис.

Позицию президента поддержал и глава латвийской дипломатии В.Биркавс, неоднократно напоминавший, что узаконенная смертная казнь закроет Латвии ворота в Европу. Латвийский МИД вчера подал в правительство проект о присоединении к 6-му протоколу Европейской конвенции прав человека, которым запрещено применять смертную казнь в невоенное время.

*B&B*

# Штаты хотят всех наказать

**Американцы запутались в экономических санкциях, которые они ввели против третьих стран.**

Мир оплела густая сеть экономических санкций США, и она ширится с каждым днем, отмечает политический обозреватель агентства *Associated Press*. США наложили 70 санкций за последние 5 лет — это более половины всех международных санкций, введенных после окончания Второй мировой войны. Недавно США «наказали» Индию за проведение подземных ядерных испытаний, ранее за ядерные эксперименты пострадал Пакистан. Верхняя палата Конгресса рассматривает введение санкций против России — якобы за передачу Ирану ядерных технологий. Комитет по международным отношениям Конгресса США добивается утверждения карательных мер против правительства Нигерии. Наказаны и стоят в углу Иран, Ирак, Сирия, Ливия, Северная Корея, Югославия, Судан, Бирма и десяток других стран.

**Б.П.**



# Два вождя

Борис Ельцин будет баллотироваться в третий раз. Такое «личное» предположение публично сделал в минувшую среду его пресс-секретарь Сергей Ястржембский. За два дня до этого новый губернатор Красноярска Александр Лебедь заявил, что, если народ его востребует, он примет участие и в борьбе за президентский пост. Стало ясно то, что было ясно и раньше: в двухтысячном году победит один из них и никто другой.

Россия еще долго будет следовать лозунгу избирательной кампании Ельцина 1996 года «Голосуй сердцем!». Если бы она голосовала интеллектом, были бы шансы у Григория Явлинского, если памятью — у Геннадия Зюганова, если прагматическим расчетом — у Юрия Лужкова. Но она голосует сердцем, и потому у них шансов нет.

«Тот, кто не понимает исконно женский характер масс, никогда не будет хорошим оратором. Спросите себя, что женщина ожидает от мужчины? Ясности, решительности, властности, действия». К этим словам известного немецкого политика 20-40-х годов Адольфа Гитлера добавим чисто российское требование личной брутальности (крутизны). Учебники политологии констатируют, что в массовом сознании российского люда с прежних веков сохраняется образ вождя-царя, отношение к лидеру скорее как к некой мистической фигуре, чем как к целеустремленному преобразователю. Только двое сейчас способны соответствовать народным чаяниям.

### Чтоб чужие боялись

Таким же ясным майским днем ровно девять лет назад в Лужниках проходил многотысячный митинг. На трибуне стояли Андрей Сахаров и Елена Боннэр, Юрий Афанасьев, Гавриил Попов, Анатолий Собчак, Борис Ельцин, Тельман Гдлян и кто-то еще из межрегиональной группы депутатов проходившего тогда первого Съезда народных депутатов СССР. Один за другим выступали ораторы — за свободу, демократию, права человека и против КПСС. Какую-то речь произнес и молодой человек в десантной форме без погон. Десантник, в частности, сообщил, что его послали в какую-то «горячую точку» кого-то усмирять, но он предпочел дезертировать. Через некоторое время после того, как он сошел с трибуны, дальний угол толпы заколыхался. Оказывается, милиция тащила идейного дезертира в «воронок». Борис Ельцин сбежал с трибуны и ринулся к месту задержания. Вскоре он вновь появился на трибуне — и предъявил народу слегка помятого, но свободного десантника.

С отлетевшим седеющим чубом и сбившимся набок галстуком, красный и гневный, Ельцин вызвал у толпы такой взрыв восторга и обожания, какого автору за его довольно длинную жизнь видеть не доводилось. А вот сейчас закрадывается нелепая мысль: вдруг и эта великолепная мизансцена была придумана хитроумными имиджмейкерами?

Нет, конечно, тогда и слова-то такого не знали. Ельцин был опальным номенклатурщиком, зампредом Госстроя, рядовым депутатом — и народным вождем. Сейчас это вождь аппарата, многоопытный правитель, и почти всякая импровизация у него срежиссирована.

Технологию вызова очередного приступа народной если не любви, то хотя бы симпатии президент и его двор, в общем-то, удачно использовали на прошлых выборах в 1996 году. Тогда, правда, сильно подзасиделись на старте и едва не проиграли. Теперь, стало быть, решили перестраховаться и начать подготовку к новым выборам за два с лишним года. Расчистку политического пространства Ельцин начал с отставки правительства. Он не хочет повторять ошибок своих украинских коллег. Леонид Кравчук вырастил в премьерах своего будущего победителя Леонида Кучму. Тот, в свою очередь, подготовил себе мощных конкурентов в лице Евгения Марчука, а затем Павла Назаренко, и теперь не знает, что с ними делать.

С Виктором Черномырдиным получалось похоже. Он начал приобретать политический вес, в финансово-промышленных и других кругах пошли разговоры о его шансах в двухтысячном году. Никак нельзя было его не убрать. И вот теперь молодые российские бюрократы (технократы) будут выполнять экономические задачи, ни на волос не вторгаясь в политические сферы. А Сергея Кириенко просто невозможно представить в роли претендента на российский престол, чем именно он и люб.

Разгром партии власти, начатый президентом, довершают избиратели. Лишенные моральной и материальной поддержки центра, один за другим сыплются на выборах маститые губернаторы-сенаторы. А что за них беспокоиться, любые новые будут так же искать дороги к сердцам московских чиновников, пусть и такие убежденные противники режима, как Стародубцев и Руцкой.

Проблема президента Ельцина и всей прикормленной и запуганной «системы» заключается лишь в том, что система эта не является всей страной. Внесистемный народ ведет себя просто ужасно: садится на рельсы, берет заложников, голосует не просто сердцем, а ненавистью сердца. Тут, по непреложному закону истории, вырастает и внесистемный лидер. Как говорится, если ситуация дозрела до Наполеона, то и Наполеон дозрел до ситуации.



### Добрый внутри

На одном из сотен предвыборных митингов в богом забытой сибирской деревушке после яркой речи Александра Лебедя и ответов на всяческие вопросы на трибунку взошла типичная представительница местных масс — старушка божий одуванчик и пропела куплетик как бы собственного народного сочинения: «Прут на Сашу демократы, аферисты всех мастей, но поставит Лебедь раком этих щукиных детей». Похоже, команде политтехнологов, сработано отлично.

Блистательную политическую карьеру генерала можно объяснить его личными качествами. Не допустил ни одной серьезной ошибки. Вовремя создал собственные политические структуры, выработал правильные лозунги, привлек умных людей для написания экономических программ, демобилизованные массы офицеров — для ведения агитации. Четко дистанцировался от истеблишмента даже во время пребывания в нем...

Но есть гораздо более простое объяснение, впрочем, не зачеркивающее первого. По мере утраты Ельциным образа вождя в массах нарастали ожидание и поиск нового. Приднестровский герой и чеченский миротворец Александр Лебедь попал в десятку таких ожиданий. Он вбил колышек в чистом поле и написал: «Вожак». И все стеклись сами собой — преданные соратники, толковые советники, серьезные деньги.

В конце 80-х — начале 90-х наивные политические противники Ельцина громко сетовали: все идет ему в руки, все работает на популярность. Его ругают — плюс, замалчивают — опять плюс. Даже падение с моста, даже транслированный по телевизору пьяный бред, с которым он выступал перед американской интеллигенцией.

То же самое говорят и теперь о фатальном везении Лебедя, благо он и ведет себя приличней и умней. Все объясняется тем самым словом «востребованность». Если российский электорат почувствовал вождя, то он простит ему практически все.

В Красноярске Лебедь сделал очень рискованный ход. Он полностью сменил лексикон. Все его программные заявления — это воплощенные умеренность и аккуратность. Экономисты оценивают его план действий в губернии как грамотный и спокойный текст либерально-буржуазного содержания. Лебедь не уставал повторять выхваченную у Геннадия Зюганова фразу о том, что Россия исчерпала лимит на кровопролития. Он везде говорил, что будет действовать только ненасильственными конституционными методами. Он напоминал, что никогда не начинал войн, что он их только заканчивал. Когда его соперник Валерий Зубов, заикаясь от собственной смелости, грозил центру, что прекратит подачу денег, Лебедь в качестве самого экстремального метода объявлял обращение в суд.

У генерала получилось два монолога одновременно. Слова предназначались для тех, кто думает, а сумарчный тяжелый тон природного вожака — для тех, кто чувствует. Кроме того, Лебедь и его тридцатитысячная армия поддержки сумели поднять и увлечь те большие слои населения, на которые социологи махнули рукой и назвали болотом. Нет сомнения, что продвижение в электоральную тину Лебедь будет продолжать.

Итак, общее направление начавшегося двухлетнего марафона за российский трон определилось. Система попробует доказать свою жизнеспособность, и отстоять ее, кроме стареющего титана Бориса Ельцина, теперь некому.

**Искандер ХИСАМОВ**

## 35 дзяцей і 40 унукаў

**74-гадовы селянін з Гандураса на сёньняшні дзень цалкам мае права насіць ганаровае званне «бацька-герой».**

Сантас Пастар Бака мае 35 дзяцей; старэйшаму 51 год, малодшаму — усяго 3 месяцы. На гэтым сеньёр Бака не спыняецца: ягоная жонка павінна неўзабаве нарадзіць, і гэта будзе ўжо 36-ты нашчадак.

Сантас Бака жанаты другі раз. 18 дзяцей нарадзіліся ў першым шлюбе, 8 — у другім, а яшчэ 9 з'явіліся на свет у выніку, як кажа сам Сантас, ягоных «ціхіх вылазак па роднай вёсцы». Цікава, што вёска называецца Кансепсьён, што па-іспанску азначае — «зачацце», а шматлікія дзеці працягваюць традыцыю: у Сантаса Бакі ўжо 40 унукаў і 10 праўнукаў.

## Еўропа ўсіх перажыве

**Пасля 2025 года даўжэй за ўсіх людзі будуць жыць у Ісландыі, Італіі і Швецыі.**

Эксперты сусветнай арганізацыі здароўя лічаць, што людзі, якія народзяцца ў другой чвэрці XXI стагоддзя ў гэтых краінах, у сярэднім дажывуць да васьмідзесяці двух гадоў. У ЗША наступнае пакаленне будзе жыць на два гады меней. Самая нізкая працяглась жыцця будзе ў заходнеафрыканскай краіне С'ера-Леонэ, дзе сярэдняя працяглась жыцця складзе каля 50 гадоў.

## Сабака дапаможа пахудзець

**У Японіі праходзіць мода на цацкі-тамагочы — электронных курант. Ім на змену прыйшоў новы кумір — віртуальны сабака, якога гаспадар павінен насіць у кішэні або на поясе, як пэйджэр.**

Новая цацка — гэта гібрыд віртуальнага звера і датчыка, які сочыць за здароўем гаспадара. У прыватнасці, прыбор дакладна вылічвае колькасць крокаў, якія чалавек зрабіў за дзень. Калі вы мала рухаецеся, то сабака на экране цацкі неўзабавеператворыцца ў тоўстую брыдкую свінню. І наадварот, калі весці актыўны лад жыцця, то сабака на экране будзе прыгожым, жвавым і вясёлым.

Цацку прыдумаў інжынер Ютака Нагаяма, які сам доўгі час змагаўся з залішняй вагой; вынаходніцтва дапамагло яму пахудзець на 15 кг. Акрамя гэтых відавочных вартасцяў, па словах аўтара, віртуальны сабака мае яшчэ шэраг пераваг: ён не есць, не п'е, не займае месца ў кватэры, не ліняе, нядорага каштуе і не смярдзіць псінаю.

## Называй дзіця па-людску

**У канадскай правінцыі Квебек улады строга сочаць, якія імёны даюць бацькі сваім дзецям.**

Менавіта муніцыпальныя органы вырашаюць, ці можа новы жыхар правінцыі насіць неардынарнае імя. У сувязі з гэтым, піша газета *Christian Science Monitor*, нядаўна ў Квебеку здарыўся сапраўдны скандал. Улады не далі дазволу бацькам назваць дачушку Айвары (у перакладзе з англійскай — слановая костка). Бацькі падалі ў суд і выйгралі працэс.

Аднак гэты выпадак — хутчэй выключэнне. Часцей за ўсё суд прымае рашэнне на карысць улады. Апрача Квебека, падобны закон дзейнічае і на тэрыторыі правінцыі Брытанская Калумбія. Тут, напрыклад, катэгарычна забаронена называць дзяцей Каўбой, Доктар ці проста Кароль.

# Красавица-приманка

**Бывшая «Мисс Вселенная» американка Линда Бемент, завоевавшая этот титул в 1960 году, обвиняет Центральное разведывательное управление США в том, что эта спецслужба использовала ее в качестве «приманки» для получения информации от высокопоставленных государственных деятелей стран мира.**

С этими обвинениями Бемент выступила в статье, написанной ею в соавторстве с известным профессиональным журналистом Лоуренсом Гонзалесом и которую в настоящее время их литературный агент предложил для публикации целому ряду журналов. Согласно рассказам бывшей «Мисс Вселенная», ее жизнь, после получения почетного титула, напоминала собой лихо закрученный сценарий очередного боевика о приключениях супершпиона Джеймса Бонда.

В годы «холодной войны» Бемент, по ее словам, оказалась настоящей находкой для ЦРУ, поскольку она имела абсолютно легальную возможность переезжать из страны в страну и знакомиться с высокопоставленными государственными деятелями, а также представителями мира бизнеса. Американское разведывательное ведомство, сообщает бывшая победительница конкурсов красоты, поставило перед ней задачу: сближаться с важными политиками и бизнесменами, посещать их офисы и частные дома и незаметно устанавливать «жучки»-микрофоны, которые позволили бы американским спецслужбам находиться в курсе всех бесед того или иного политика.

Особое внимание, подчеркивает Бемент, ЦРУ уделяло ситуации в Латинской Америке, поскольку опасалось распространения влияния на этот регион кубинской революции. Бемент, в ходе своего тура по странам мира, встречалась с политиками из этого региона. Как свидетельствует она сама, в большинстве случаев, справившись с заданием ЦРУ, ей удавалось под благовидным предлогом избегать назойливых ухаживаний. Однако несколько раз, подчеркивает бывшая «Мисс Вселенная», ей так и не удавалось охладить пыл ухажеров, и она становилась жертвой изнасилований со стороны мужчин, за которыми она должна была шпионить.

Статья Бемент и ее соавтора еще не опубликована, но интерес к изложенным в ней событиям безусловно велик. Свидетельством этому может стать хотя бы то, что, по слухам в голливудских кругах, агент бывшей «Мисс Вселенная» уже вступил в контакт с рядом продюсеров, заинтересованных в постановке фильма на основе приключений победительницы конкурсов красоты.

**Алексей АГУРЕЕВ**

# Секреты топ-моделей

*Как им удается сохранять отличную форму*

Выглядеть потрясающе — это тяжелая, требующая полной отдачи работа для топ-моделей. Они знают, как правильно питаться, чтобы быть на подиуме энергичной и веселой, чтобы вызывать восхищенные взгляды, чтобы требовать и получать огромные гонорары. На днях британский журнал «Бизнес эйдж» обнародовал данные о личных состояниях пяти самых богатых топ-моделей. На первое место вышла Эли Макферсон, которая, по оценкам экспертов, «стоит» сейчас 38 миллионов долларов (сюда включены ее доходы от показа мод — по 34 тысячи долларов за выход, от съемок в рекламе и кино, от собственной фирмы по производству дамского белья, от совладения сетью ресторанов под названием «Фэшн кафе»). На 2 миллиона меньше насчитывается у Синди Кроуфорд. Далее следуют Клаудиа Шиффер (34 миллиона), Линда Евангелиста (28 миллионов) и Наоми Кэмпбелл (27,5 миллиона долларов).

Что же кушают и какие делают физические упражнения самые симпатичные женщины мира?

### Синди Кроуфорд

Общепризнанная американская красавица осторожна в выборе еды. «Мой завтрак состоит из кукурузных хлопьев с бананом и обезжиренного молока, — признается Синди, вес которой при росте 176 сантиметров равен всего 59 кг. — На обед я ем обычно спагетти и салат. На ужин — «суши», рис и овощи. Молочных продуктов я избегаю».

31-летняя Синди не жалеет сил и времени на физические упражнения. Она играет в баскетбол и посещает тренажерный зал четыре раза в неделю.

### Наоми Кэмпбелл

27-летняя чернокожая дива предпочитает европейскую еду. «Еда в Америке тоже хороша, — объясняет она. — Но мне больше нравится европейская кухня, потому что там меньше порции». Ее рост — чуть выше 176 см, а вес — 56,6 кг. «Что касается физических упражнений, — подчеркивает она, — то я не люблю ходить в тренажерные залы. Тренажеры монотонны и скучны. Я отдаю предпочтение танцам. В Лос-Анджелесе я нашла тренера по боксу. Однако я не боксирую на ринге, а тренируюсь только с грушей. Бокс — отличная разрядка. Он укрепляет и удлиняет мышцы рук. И я не замечаю, как быстро пролетает время».

### Кейт Мосс

А что она делает, чтобы поддерживать себя в отличной форме? Оказывается, не так уж и много. Несмотря на сногсшибательную фигуру, 23-летняя Кейт не сидит на диете. По меньшей мере, она так утверждает. «Я люблю английскую кухню, — не скрывает она, — спагетти, рыбу, чипсы, сосиски и пюре. Я — худая от природы. Я не придерживаюсь диеты и не изнуряю себя физическими упражнениями».

### Клаудиа Шиффер

Она околдовала своего дружка — всемирно известного иллюзиониста Дэвида Копперфильда, придерживаясь весьма протеиновой низкокалорийной диеты. «Мой завтрак состоит из фруктов, чая и апельсинового сока, — делится 26-летняя Клаудиа, которая при росте 181 см весит всего 53 кг. — На обед обычно ем куриные грудки, вареное яйцо и овощной салат. На полдник — томатный сок, черный виноград и травяной чай. Ужин у меня легкий: салат и сваренные на пару овощи».



### Эли Макферсон

До беременности эта красотка весила около 55 кг при росте 182 сантиметра. «Я люблю есть в ресторанах, обожаю спагетти, — делится сокровенным Эль, — не чураюсь арахисового масла и молока». Шкафы на кухне и холодильник также забиты у нее кукурузными хлопьями, хлебом, швейцарским сыром, ветчиной и кока-колой. Что касается физических занятий, 33-летняя уроженка Австралии выпустила даже свою видеокассету под названием «Ваши лучшие упражнения с Эль Макферсон». Туда входят шесть пятиминутных комплексов — от аэробики до упражнений с тяжестями.

А вот девять простых советов, которые дает любым женщинам, желающим выглядеть как топ-модели, профессор Гарвардского университета Фредрик Стэйр, который много лет занимается вопросами питания, в том числе разрабатывает диеты для манекенщиц:

— Ешьте три раза в день.

— Порции не должны быть большими.

— Выбирайте постное мясо, рыбу, фрукты, овощи и крупы. Исключите из своего рациона жирную пищу и сладости.

— Ешьте медленно, тщательно пережевывая пищу. Это даст вашему желудку почувствовать себя наполненным и уменьшится вероятность того, что вы переедите.

— Выпивайте, по меньшей мере, восемь стаканов воды каждый день. Один-два стакана обезжиренного молока в день тоже благотворно влияет на здоровье женщин.

— Каждый день перед основным приемом пищи надо съедать большую порцию овощного салата.

— По возможности заменяйте низкокалорийную и обезжиренную пищу на нормальную.

— Не пренебрегайте легкими закусками. Выбирайте сырые овощи и фрукты.

— Регулярно делайте физические упражнения, подбирая для себя наиболее удобные комплексы.

«Существует ложное представление, — поясняет доктор Стэйр, — что топ-модели полностью исключают из своего рациона жиры и сладости. Это не так. Они просто сократили до минимума их потребление, составив свои диеты на основе овощей и фруктов. И они занимаются физическими упражнениями, что помогает им сжигать лишние калории и уменьшать свой вес или поддерживать его на одном уровне.

На протяжении ряда лет я призываю всех женщин придерживаться двух принципов — правильно кушайте и регулярно делайте физические упражнения, — продолжает профессор. — Причем, совсем не нужно уподобляться Наоми Кэмпбелл, которая боксирует с грушей под руководством личного тренера и ходит кушать в элитные рестораны, где специально для нее готовят особые порции. Всего этого можно добиться и в домашних условиях. Начните, к примеру, с 10-минутной прогулки вокруг дома. Затем приучите себя к 30 или 40-минутным занятиям четыре-пять раз в неделю. Это может быть все что угодно — ходьба, бег, плавание, аэробика. Все — что вам нравится. Запомните — не нужно специально ходить в тренажерные залы, чтобы делать физические упражнения».

**Александр ПАХОМОВ**

## Тюрьма дороже Итона

**В британском городе Рочестере (графство Кент) открылась самая дорогостоящая тюрьма в мире, предназначенная для перевоспитания подростков-уголовников в возрасте от 12 до 14 лет.**

Стоимость строительства тюремного комплекса «Мидуэй» составила свыше 51 млн. долларов. Всего планируется построить четыре таких тюрьмы.

Общее число перевоспитуемых — 200 человек, каждый из которых будет еженедельно обходиться государству в 8,5 тыс. долларов. Это ровно в 10 раз больше стоимости недели обучения в самом престижном колледже мира — Итонском, который, как и «Мидуэй», имеет собственные площадки для тенниса и гольфа.

Обслуживающий персонал тюрьмы состоит из 86 человек, в их числе девять учителей, четыре врача и священник. Камеры, в которых будут содержаться до трех правонарушителей, оснащены телефонами, теле- и радиоприемниками, а также всеми бытовыми удобствами. Обитатели тюрьмы, которым придется не по вкусу «столовская еда», смогут сами купить продукты и готовить пищу в кухне, пристроенной к каждой камере.

Сидеть в такой тюрьме будут обыкновенные преступники, которые поступят в нее на общих основаниях.

**Б.П.**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1193 Нумар падпісаны ў друк 26.05.98 (15:00) Наклад — 19.210